Przesyłka pocztowa opłacona ryczałtem

ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЕРШЫ

АСОБНЫ НУМАР 30 ГРОШ.




ГУМАРЫСТЫЧНАЯ 2-х ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, Гэтманская вул., № 4 «МАЛАНКА» | № 12 1-га ЛІПНЯ. 1926 г. | ПАДПІСНАЯ ЦАНА: на 1 год 8 злот. „ паўгоду 4 „ „ тры мес. 2 „ „ адзін м. 1 „ — За граніцу: на год—тры даляры, на паўгоду—1 д. і 50 цэнт. |
| --- | --- | --- |

# Праваднік „Асьветы“.




**ПАЛІЦЫЯНТ:** Хоць там нехта нешта гавора аб аўтаноміі і пашырэньні правоў для нацыянальных меншасьцяў, але я гэтаму ня веру, бо толькі я быў, ёсьць і буду адзіным праўдзівым праваднікам асьветы на Крэсах, бязупынна асьвячаючы цёмную вёску сьвятлом свае лятарні.



# Амністыі!

За апошні год у Польшчы арыштована 11.000 работнікаў і сялян і выдана 381 асуджаньняў у палітычных працэсах. Пэпэсаўскі пасол Уэмбло, прамаўляючы ў Сойме і аблічваючы ўсіх палітычных арыштантаў затрымаўся на лічбе 9.800. Гэта апошняя лічба сьведчыць, што на агульны лік арыштантаў у Польшчы (30.000) адна трацiна выпадае на палітычных.

(„Воля Народа“)

Яшчэ ня так даўно нагайка тут сьвістала,
Усяўладна панаваў „адзіны рускі цар“.
Прайшло ўсё, мінулася, прапала, —
Прагнаў іх прэч Народ — магутны Уладар.

І там, дзе быў вастрог Народаў катаваных,
Сягоньня Волі гымн па ўсёй зямлі ляціць.
Здавалася: ня будзе больш забраных
І на сваёй зямлі свабодна будзем жыць.

Але былі то толькі адны мары,
Жыцьцё зноў поўнае нязгодаў і трывог,
Зноў уначы нам сьняцца сны-кашмары
І стогне так, як перш, адноўлены вастрог.

Браты! Ці вас не навучыла
Змаганьне вашае за новы лепшы час, —
Скажэце вы, што розум ваш зацьміла,
За што, скажэце, вы прасьледуеце нас?..

Пара ўжо зразумець, што ў час асвабаждэньня,
Як *„роўных з роўнымі“* нас трэба шанаваць,
І ў дзень, як даны кліч: *„Моральнэ одродзэне“*,
За Волю што сядзяць—**АМНІСТЫЮ** трэ' даць!

Я. М.



# Маёвы ўспамін.

Ты, сялянін, сядзі ціха,
Паны б'юцца: — будзе ліха!



Б'юць у званы: трывожны звон...
Бой. Пажары. Грукат. Стон.
Шуміць народ. Жаўнеры б'юцца.
Весткі гучныя нясуцца:

„Пілсудскі Вітоса прагнаў!“...
— — — — — — — — — —
— — — — — — — — — —
Сьціх той шум. Занік. Прапаў.

Жыцьцё прыйшло у рух штодзенны.
Забыта ўсё, як звон нядзельны.
Падзеяў сьцяг, крывавых майскіх дзён.
Узьняўся, прагучэў і сьціх раптоўны тон.

Народ, ажыўлены наплывам вестак волі,
Жадае новых зьмен, палегчаньня нядолі,
Жадае слова, веды, роднай школы,
Жадае ясных праўд, зямлі і волі.

Той рух ідэйны, рух народны
Абняў шырока край наш родны;
Паны у страху: шумяць „крэсы“, —
— Ой, штосьці кепскі інтарэсы!

Нам сыплюць горы абяцанак,
Але цану панскіх прыманак
Наш беларус о-ёй як знае, —
Вось сёмы год ужо мінае,

А абяцанкам няма конца.
— — — — — — — — — —
Ужо сьвітае. Ўсходзе сонца, —

Ўстаюць сяляне грамадою
Змагацца з вечнаю бядою.
*„Маланка“* сьвеціць ім вясёла;
Шуміць-гудзіць народ наўкола!..

Ю. Ш.

Крапіва.

## На віленскім сквэры

(Ў Цялятніку).

Хто гуляў па нашым „сквэры“
Ці мо' блізка хаця йшоў,
Той бяз ліку і бяз меры
Мог там бачыць гультаёў —

Труцца ўсе, як рыба ў нераст
Аб чужых і аб сваіх...
Давялося нек і мне раз
Дось нагледзецца на іх.

Там усеўся я пад дрэвам
(Не ахвотнік вандраваць)
І направа, і налева
Стаў па „сквэры“ разглядаць.

Вось пад руку на буксіры *)
Банкір касіршу вядзе,
Пра гэшэфты вельмі шчыра
Пра даляры ёй гудзе.

Вось і крамнік, мне знаёмы,
Час прышоў тут каратаць —
Што ўжо рызыкі у Шлёмы! —
Фігай носу не дастаць.

На ланцужку сучку рабу
Водзіць важна паміж пар,
Навышкі дзяўчына з жабу —
Размалёван увесь твар.

Вось напхаўшы ватай грудзі,
Ходзіць пара старых дзеў —
Ім гадоў пад сорак будзе,
Хоць я ў зубы не глядзеў.

Вось дзяцей сабралась куча,
Крык паднялі, як гракі?
Вабяць хлопцаў вось ідучы,
Ўжо „начныя матылькі“

Пасядзеў я з паўгадзіны,
Але болей то ня мог:
Запаскудзіў грак з асіны
Мне ўсю шапку, каб ён здох!

З тэй пары (кажу я верна,
Ты, чытач, хоць вер-ня-вер)
Аж вантробы з мяне верне,
Як я ўздумаю пра „сквэр“.

*) *Буксір*-параход, які цягнe за сабой нагружаную барку.

Ад рэдакцыі:

Даруй, пякучая, Крапіўка,
Што зьмянілі крыху тут,
Бо інакш Твая крапіўка
Ня прыпала на наш грунт.

«Маланка».

Рыс. „*Зиз*“.




П. П. С. дакляруе аўтаномію.

Крапіва.

## Каго мне ўзяць за кума?

— Што за штука тут такая?
Запытаў нек Пранука я,
— І багаты ты ня надта,
Збудаваў аднак вось хату, —
Аж сьвіціца, так як шклянка,
На падлозе, нават з ганкам;
Ды ў вялікай ты дарозе
Ня бываеш і ў абозе,
Нават рэдка быў і ў блізкай
Хоць здаровы твой каніска;
Тры душы ў цябе сямейкі,
А вось ворнай-жа зямелькі
Дзесяцін ты маеш з восем,
Дык чаму-ж, скажы, увосень
Заплаціў усяго налогу
Нешта ўжо зусім нямнога?“
— „Я скажу, сусед, аб гэтым
Табе толькі пад сакрэтам:
У мяне, бач, сват-прыяцель,
Гміннай рады прадсядацель,
Вось чаму зімой і ўлетку
Я ў абоз так ежджу рэдка,
Вось чаму так панямногу
Я плачу таго налогу,
Вось чаму (ах, дзякуй свату!)
Збудаваў я нову хату,
Хоць далёка да такое
Як у Янкі — там пакоі.
Пастаяў я тут, паслухаў,
Пяцярнёй паскроб за вухам
Ды пашоў хутчэй да хаты;
Там я з жонкай „таўставатай“
Доўга раіўся і думаў —
Каго ўзяць-бы нам за кума.

## Абед з 7-х страваў.

Да селяніна Мікіты, які меў добры апэтыт і любіў часам многа зьесьці, прывязьлі доктара. Селянін мучыўся ад болю, ледзь соп і ўсё стагнаў.

— Чаго ты аб'еўся? — запытаўся доктар.

— Зьеў абед з сямёх страваў.

— Што?.. З якіх страваў? — зьдзівіўся доктар, які сам заўсёды еў абед з двух, альбо трох страваў.

— Зьеў чатыры місы бацьвіньня і тры місы заціркі,—стогнучы адказаў селянін.

Вій.

## Невінаваты.

*Судзьдзя:* (да абвінавачанага): Ці прызнаецеся ў крадзежы гадзіньніка ад Багацькі?

*Абвінавачаны*: Але, ўзяў, пане судзьдзя.

*Судзьдзя*: Ці прызнаеце сябе вінаватым і што можаце сказаць у сваю абарону.

*Абвінавачаны*: Не, я зусім невінаваты!

*Судзьдзя:* Як-жа гэта так? Вы-ж самі прызналіся ў крадзежы.

*Абвінавачаны*: Я хацеў украсьці портфэль з грашмі, а папаўся гадзіньнік, — дык я невінаваты!

Ка—со.

### ДЗІЎНАЯ ПРЫЧЫНА.

— Марылька, пакліч татку на мінутку, — маю да яго інтэрас.

— Калі-ж татка ня мае часу.

— А што-ж ён робіць?

— Матка яго б'ець.

### АБРАНЫ АДНАГАЛОСНА.

— Хто ў нас быў абраны прэзыдэнтам аднагалосна?

— Ящчэ такога ня было?

— Як ня было? Быў!

— ?.. ?.. ?..

— Дзяржынскі.

— ?.. ?.. ?..

— Бо на выбарах дастаў адзін голас.

*Я. М.*

# Беларусь, ты прабуждайся,—ашукаць сябе ня дайся!

**(Новая сучасная каробачка).**

Поўна, поўна, як каробачка
Мае польскі Сойм пafслоў;
Толькі неяк (вось хваробачка)
Мала мудрых там галоў.




Усё грызуцца як сабакі,
Аж чубы ляцяць як пух,
Збрыдлі ўсім, як ваўкалакі,
Як хвароба, як злы дух.

Панаваньне іх аднача
Згіне братцы, без пары
Па іх ніхто не заплача,
Скажа: „чорт іх пабяры!“

Зноў бярыся за *выборы*
Й я з „*Маланкою*“ бярусь,
Бо грамадой *агітаторы*
Ужо пайшлі на Беларусь.

---

**П. П. С.**

Але вось сваты другія
Валяць к ёй праз Пінскі лес:
Шлець к Красуні-Беларусі
Доўгавусы Пэ-Пэ-Эс.



І прыліпшы ёй да ручкі ўжо
Так салодка шэпча ёй:
— „Дай, Красуня-Беларусачка,
„Дай мне сэрца, не жалей!“

„Дам табе я „аўтаномію“,
„*Усе тавары разлажу*“,
„Толькі йдзем, мая дзяўчыначка,
„Йдзем прыляжам на мяжу!“

—„Не хачу з табой мець справы я
„І ня дам табе рукі, —
„Бо вайсковыя асаднікі
„Тваеж гэта байструкі.

---

**Э н д э ц ы я.**

Ідуць шумна па дарозе
Тоўстапузыя паны, —
Да прыгожай Беларусі
Шлюць сватоў сваіх яны.



Шлюць сватоў і пацяшаюцца,
Што „хамувку“ падмануць:
Пра багацьце як раскажуць,
Ажно сьлінкі пацякуць.

„А пасьля, як скруцім рукі
Вярнём паншчыну-прыгон“...
Паноў ня любіць маладзіца
З беднай хаты прэ іх вон:

— Мне ня трэба вас эндэкаў,
Мне ня трэба гультаёў,
Бо люблю я люд працоўны —
Беларусаў-артаёў.

---

**„В ы з в а л е н ь н е“.**

Вызваленец — вось пакуса
Ашукаці нас гатоў, —
Да Красуні — Беларусі
Пасылае зноў сватоў.



Дробным макам рассыпаецца,
Бярэць ручкі цалаваць,
Жыці верна прысягаецца—
Больш ужо не ашукаць.

А ў душы ён думку думае,
Хітра гладзіць па вусах:
— „Не патрэбна мне, хамула ты,
А патрэбны твой пасаг?“

Беларусачка-ж прыгожая
(Даўся ў знакі ёй відаць)
„Вызваленца“—ашуканца
Кажа з хаты свае гнаць.

---

**П я с т.**

А вось Вітас доўганосы
(Ужо забыўшы Бэльвэдэр *)
Да прыгожай Белауусі
Шлець сватоў сваіх цяпер.




—„Будзеш (кажа) ты шчасьліваю,
„Калі пойдзеш за мяне, —
„Будуць людзі паважаці,
„Ніхто пальцам не кране“

—„Ня люблю я доўганосых
„За пястоўца не пайду.
„Я, дзяўчыначка прыгожая,
„Сабе лепшага знайду“.

„Ты з панамі дружбу маеш
„І плюеш на мужыкоў, —
„Дык чаго-ж ты да нас лезеш
„Беларусаў-мужыкоў?!“

*) Бэльвэдэр—палац прэзыдэнта, скуль Вітас быў выгнаны з яго ўрадам.

---

**Тымчасовая Рада.**

Вос і „дохтар“ Паўлюкевіч
Падсылае нам сватоў.
І ён, братцы, з Беларусяй
Шлюб узяці нат гатоў.



Шлюб узяці „тымчасова“,
А пасьля паном прадаць,—
Грошы любіць ён, як Юда,
Усё за іх гатоў аддаць.

— „Прэч ты, Юдаш, прэч прадаўца!“
Усюды гоняць яго прэч,

Ледзь наш „дохтар“ з „тымчасовай“
Не схаваўся ўжо за печ.

І пайдзе цяпер у „Радзе“
З Балаховічам ў хаўрус,
Бо ў газэціне бульварнай
Лае ўсіх, хто беларус.

---

Беларусь, будзь асьцярожна,
Ня лезь на шыю чужніку,
Бо пасьля ты закукуеш,
Як зязюлька на суку.

Пан датуль ёсьць, толькі добры
Пакуль цябе замане:
— „Косю, косю!—дый ў аглоблі,
Пасьля пугай па сьпіне.

Ты з панамі не вазіся,
Чужнікоў ты ня вітай,
Беларускіх дэпутатаў
Адно толькі памятай,

Не вяжыся з „Сельсаюзам“
І з „хадэцкаю“ бурдой,
А ідзі ты з пролетарскай
Беларускай Грамадой.

**Янка Багдан.**

## Нязвычайныя лёты нядаўных дзён.




Гэтак Амундсэн ляцеў на сваім дырыжаблі на адкрыцьце паўночнага бягуна.




Гэтак урад Вітоса ўцякаў на аэроплянах з Варшавы ў Пазнань.
(„Сегодня“)

---

## На сучасныя тэмы.

### ПРОЦІЎ ДЫКТАТУРЫ.

— У газэтах пішуць, каб была дыктатура, дык было-б ляпей.

— Якое там ляпей!

— Чаму?..

— Вунь у мяне жонка ў хаце кіруе, як дыктатар, дык ніякага парадку няма.

*Я. М.*

### „ОДРОДЗЭНЕ МОРАЛЬНЭ“.

— Чаму гэта цябе ня відаць было?

— Хварэў два тыдні.

— ?.. ?.. ?..

— Вунь у пятніцу на кірмашы прадаў кароўку, ды выпіў з кумам трохі „rządowej monopolówki“, дык увечары апынуўся на пастарунку, дзе камэндант прачытаў мне цэлую лекцыю на тэму *„одродзэня моральнэго“*, ды гэтак аргумэнтальна, што яшчэ і цяпер касьцей парухаць не магу.

*Я. М.*

### „АЎТАНОМІЯ“.

— Што гэта, дзядзька, за аўтаномія такая, якую пэ-пэ-эсы хочуць нам даць?

— А гэта таксама, як у 1905 годзе:

„Даў цар народу
„Свой маніфэст:
„Мёртвым — свабоду;
„Жывых — пад арэшт!“

*Я. М.*

### ВОДГУКІ МАЁВАГА „ПЕРАВАРОТУ“

(*Аўтэнтычна*).

— Пішуць у газэтах, што ўжо няма Вітоса.

— Няма Вітоса, дык будзе атоса... — нек загадкова адказаў стары дзед.

*Я. М.*

## У „Палясе“.

Маланачны дэлегат на паўлюкевічаўскай конфэрэнцыі ў готэлі „Паляс“ цытаецца ў аднаго з сабраных:

— Скажэце, калі ласка, чаму гэта Вярнікоўскі на шапку белага арла начапіў?..

— Вось дзіва, — адказвае той, — казённы рэдактар, не абы які чыноўнік, дык і начапіў.

— А хто гэта вось, зьезд гэты адчыняе? Чысты актор?..

— Гэта Францішак Аляхновіч, артысты, драматург.

— Ага-а! За што-ж гэта ён там прыслужваецца Павлюкевічу?..

— За... авансік.



# Нашая мова і Эспэранто.

Хоць наша доля агулам і жабрачая, а мова ўсё-ж такі наша за які-нібудзь дзесяток апошніх гадоў зрабіла вялікі прогрэс.

І ці-ж дзіва?

Знайшліся спрытныя словатворцы, якія іншы раз ня то што тлумачаць пабеларуску словы іншых моваў, а проста такі, як выдумаюць якое слоўца, дык хоць у лоб страляй, ніяк не зразумееш, што яно азначае.

Разьбярэцеся, напрыклад, чытачы — ў гэткіх тэрмінах: *валва, спадар, паймо, ўцелаўшчаньне, зьменатычнік*...

Спрабуйце зразумець іх, не пабываўшы на эміграцыі, або ня маючы пад рукою якога-нібудзь „крыўскага“ слоўніка!

Да розных пэрлаў з нашае віленскае прэсы, як: *люднасьць, становішча* мы нявольна прывыклі, як да самых нявінных палянізмаў.

Навет сам аўтор нашае популярнае граматыкі, прафэсар і палітык у сваім кароценькім пісьме ў рэдакцыю (*ня нашую— Рэд.*) ўквечвае мову гэткімі дыямэнтамі паляністыкі, як: *павыжшы, жадны*...

У дэфэнзыўным „Беларускім Слове“ Паўлюкевіча можам напаткаць і слоўцы, пакіненыя нам на ўспамін аб „добрым старым часе“ нябошчы̆цай „матушкой Россией“.

— *Саўпадзеньне, палажыцельна, падчынёны, перагрупіроўка, мягкацелы, злоба* і г. д.

Ці ж гэта не ўзбагачваньне беларускае мовы п. Паўлюкевічам?

А вось ніхто не дадумаўся яшчэ да таго, што пакрысе нашая мова робіць уплыў на міжнародную мову — Эспэранто.

Прычыны гэтаму сынонімічныя, палітычныя і ўсялякія нагул „крэсовыя“.

Сваё дасьледаваньні над вышэйспомненым уплывам падаю на суд беларусаў-эспэрантыстых.

Спадзяюся, што й гэткія ёсьць у нас, бо-ж цяпер у Вільні што ні два-тры беларусы, дык і новая партыя.

Думаю, што нашыя заходнябеларускія варункі жыцьця вытварылі магчымасьць увясьці вось гэткія словы з нашае мовы ў Эспэранто, альбо наадварот узяць у нашу мову некаторыя эспэранцкія словы, як роўназначныя нашым:

палітык — hultajo
пасол — buržujo.
алькоголік — deputato
рэдактар — speco
адпавядальны рэдактар — speca asyštanto
журналісты — proletaro
літэратар — viečnanendzo
міністар — svarybabo
карэктар — analfabeto
доктар — samazvano
артысты — bieziaboto
паўстанец — bandito
беларус — komunisto
мастак — varjato
банк — kooperativo
гумарысты — chiromanto
пісьменьнік — grafomano.
кнігарня — prywato
падпісчык — bezpłato
лаянка — pašano
сэнатар — moskalo
Тымчасова Рада — defenziva utrymanko
Сялянскі Саюз — mandatna politiko
дзеяч — psychopato

Прашу беларусаў-эспэрантыстых аднесьціся да паданага мною матар'ялу строга-крытычна і свае ўвагі не адмовіцца прысляць мне цераз „Маланку“.

**Звончык.**

# Дачакаўся свайго!

Вучыцель-паляк, які бэсьціў усё што ёсьць беларускае, а хваліў толькі польскае, апавядае дзівы-дзіўныя пра сваю Польшчу, а пры гэтым любіць добра схлусіць:

— Вось, браточкі, ў нас, у Кракове, звон, не такі, як у вас; увесь з чыстага срэбра выліты, а велічыні будзе, як вашая царква. Завуць гэны звон — „Зыгмантам“. Важыць ён 500 пудоў, а язык, дык 1000 пудоў. Каб раскалыхаць яго, дык трэба з аднаго боку 100 людзей і з другога — 100 людзей. Звоняць у яго толькі раз у год, — на Вялікдзень, значыцца, а калыхаць пачынаюць у першы тыдзень вялікага посту.

— Ай-я-я-яй! —дзівіліся бабы.

Слухаў гэта стары Антон, ды адказвае:

— Э, гэта яшчэ ня дзіза, вось у нас было дзіва: Быў я ў войску ў Вільні. Вось аднаго разу прыехаў да нас нейкі важны гэнэрал на агляд (смотр). На прывітаньне гэтага гэнэрала, казалі нам стрэліць з гарматы, а гармата была заіржавеўшая, дык вышмаравалі ў сярэдзіне салам. Толькі адыйшліся мы па знарады, як залез туды сабачка, дый пачаў лізаць сала. Вярнуліся мы, набілі гармату, ды як стрэлілі гэта мы, дык значыцца...

— А як-жа з сабачкам? — перабіў нехта яго.

— Сабачка паляцеў пад аблакі, дый усё брэшаць і брэшаць, як вось гэты паляк-вучыцель аб сваім кракаўскім зване.

**Ка ля-со.**

# Перакупка і гэнэрал.

Было вось за часаў царскіх;
Ў месьце Петраградзе
Ходзіць сабе гэнэрал
Адзеты ў парадзе.

На грудзёх многа медаляў
Залатых і срэбных,
На базар ён скіраваўся
Паміж бабаў бедных,

Што таргуюць хрэнам, бульбай
Каля камяніцы;
Былі розныя між імі
Бабы й маладзіцы.

Гэнэрал той замашыста
Йшоў цераз дарогу,
Што вывярнуў бабе кошык,
Падставіўшы ногу.

Баба ў крык: „А ты, гультаю,
Такі-сякі ходзіш.
Пазьбірай мне бульбу ў кошык,—
Бачыш—шкоду робіш!“

Гэнэрал-жа грозна глянуў,
Ды топнуў нагою:
„Маўчы баба! Ці ня бачыш,
Хто перад табою?“

— Хай гаворыць той, хто хоча,
Зусім не баюся!
Зьбірай бульбу, зэдлем кіну! —
Галосіць бабуся.

— „Маўчы, баба, ты праклята,
Бо зубы зраўняю,
Паглядзі вось на мундзір мой!
Тое, што цар маю!“

Баба хутка падкасалась,
Нібы чараўніца:
— „Паглядзі вось! Тое маю,
Што сама царыца“.



# Народны гумар.

### ШЛЯХЦІЦ.

— Мусіць пан шляхціц?
— А як зэ!
— А жонка?
— Зона такзэ.
— А дзеці?
— Дзеці тыз.
— Чаму-ж, калі пан шляхціц, а гэтак брыдка ходзіш?
— Хоць бзытко ходзэ, але добзэ ўзывам.
— Ого?
— Рано бурацкі квасьнэ, на обяд бурацкі цэрвонэ, в недзеле мархев пецона, а на Вельканоц робе собе уцтэ: вэзмэ од квасьнэго млека тэй воды, цалы збанэк выпіе і навэт... бэз хлеба.
— !.. !.. !.. К. П.

### ДАРОЖНЫ МАЙСТАР.

— Твой сынок, Агата, хоць малы, але пэўне будзе здольны.
— А як-жа! Ён, як відаць, будзе дарожным майстрам. Анэгдысь я іду сабе ля' чугункі, а ён прысеў на рэйку, да гвінты адкручвае. К. П.

### НІКОМУ НЯ ВЕРЫЦЬ.

— Апавядаюць, што памёр войт з нашай гміны, — прыдзецца абіраць другога.
— Але чуў. Адны кажуць, што памёр, а другія што жыве; а я папраўдзе скажу, што ня веру ні адным, ні другім.

### ПЕРАЗВАЛІ.

— Пашла Ксенька ў места да паноў на службу, там яе перазвалі Ксавэраю. Варочаецца неяк бацька з места, дый кажа да жонкі:
— Ой кепска нашай Ксені ў гэтых паноў. Благія яны людзі, ня кажуць інакш да яе, як Псявера ..

«Зиз».

## Дзіва.

Раз вярнуўся ўночы мельнік:
— Жонка! што гэта за боты?
— Ах ты п'яніца, бязьдзельнік,
Дзе ты бачыш? разяў рот ты!
Дурань, боўдзіла крыкліва...
Гэта-ж вёдры!—Вёдры?—дзіва!..
Маю рыхтык сорак лет
Як стаў бачыць белы сьвет,
А ня бачыў, нат і ў горы,
*Каб на вёдрах былі шпоры!..*

**Міхась Васілёк.**

# Сёньня ніхто ня мае спакою.



**Купчыха:** Ліха іх! Яшчэ толькі восьмая гадзіна, а ўжо стукаюць у дзьверы.
**Купец:** А хто там?
Каморнік, паліцыянт, сэквэстратар і два тузіны жабракоў.

## ЗАГАДКІ.

1) Калі жывёліна пачынае плаваць?
2) Якая чацьвераногая жывёліна аднолькова бачыць, як сьпераду, гэтакі і ззаду?
3) Чаго вымагае ад чалавека ўсё істнуючае і чалавек яму гэта дае?

**Разгадкі будуць паданы ў наступным нумары „Маланкі“.**

### РАЗГАДКІ

**загадак зьмешчаных у папярэднім № 11 «Маланкі».**

1) Яйкі вараныя ў вадзе, якія ядучы трэба падсольваць.
2) Певень.
3) Жонка Лота з біблійнага апавяданьня.

### ЗРАЗУМЕЎ.

На конфэрэнцыю Часовай Рады лезе селянін з-пад самае Вільні, якому павлюкевічавы агенты загадалі выдаваць сябе за паляшука.

Пры ўваходзе нейкі хлапчук пытаецца ў яго:
— А мандат вы маеце? Пакажэце...
— Ды я-ж ня баба, — перабіў селянін, — як табе смаркатаму ня сорам казаць гэткае!

**Ворчык.**

# Ад Рэдакцыі.

Усім паважаным нашым падпісчыкам, якіх падпіска скончылася з дн. 1-га ліпня г. г. пасылаем блянкі паштовых пераводаў (przekaz pocztowy) для запўненьня і прысланьня падпісной платы на новы квартал сёл. году.

Рэдакцыя **«Маланкі»** з днём 1-га ліпня с. г. пераносіцца з Віленскай вул. № 12, кв. 6 па Гэтманскую вуліцу № 4, куды належыць прысылаць падпіску, адрэсаваць корэспондэнцыю і зварочвацца асабіста.

# Заграчічны гумар.

### Гумар бальшавіцкі.



Англік злосны горай дзіка,
Стаў крычаць на бальшавіка,
Нашто сеець ён трывогу, —
Шлець рабочым дапамогу.

Бальшавік кажа англіку:
— „На што Індыю вяліку
„У няволі ты трымаеш, —
„Ненасытна бруха маеш?

### Гумар японскі.



Ахапіла ўсіх зьдзіўленьне:
„Ідзець у сьвеце разбраеньне!“
Міністры радзяць, конфэруюць
І... зброю новую рыхтуюць...

Крычаць дзяржавы: „Разбраяцца“!
„Бо ўжо некага баяцца!“
А Амэрыка бяз канца
Напалохалась... японца.

### Гумар нямецкі.



Не прайшла вайна на марна;
Па полі ходзіць дух Лёкарна;
Пляды-ж Лёкарна ляжаць збоку,
То „цывілізацыя“ ў Мароку.

### Гумар нямецкі.




Франк французскі пахіснуўся,
Пролетары ўскальхнуўся,
Крычыць: „Досыць вайны-зморы!
„Праліваці крыві моры“.

А французскі камандзеры
Ашалелі ўжо бяз меры:
Вайны новай снуюць пляны
За зямлю і акіяны.

### Гумар ангельскі.




То ня дзіва, што рабочы
Да забастовак стаў ахвочы,
Бо хоць сілы больш ня мае,
На плячох ўсё-ж носіць зграю,

Што даводзіць да галечы
І даець цяжар на плечы, —
То даўгі ў вялікім ліку,
Спадак тэй вайны вялікай,

### Гумар бразыльскі.




Вось дык дзіва каралі
Да чаго ўжо дажылі:
Круль Італіі на вярсе
Мусаліняга нясе.

Круль гішпанскі (дасьце веры!)
Вазіць стаў Прымо Рывэра
А ангельскі (хоць ня хоча)
Чэмбэрлэна ўсьцяж валоча.

## Як найшырэй распаўсюджвайце адозву „Маланкі“!

Рэдактар-выдавец М. Луцэвіч. Друкарня Б. Клецкіна, Вільня